# БЕЛАРУСЬ

ШТАДЗЕННАЯ ПОЛІТЫЧНА-ЭКОНАМІЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ГАЗЭТА.

ГОД ВЫДАНЬНЯ I.
Падпіска на м-ц: з перасыл. 15 р. без перас. 12 р.
АБВЕСТКІ на 4-й страніцы прымаюцца ва усіх мовах па звычайным цэнам.
Газэта выходзіць штодня, апроч дзен пасьлесьвяточных.
Рэдакцыя і Кантора: Менск, Міцкевічава вул., Беларускі Дом (б. Юбілейны).
Рэдактар прымае ад 12—1 гадз. Кантора адчынена ад 9 да 2 гад. і ад 5 да 7 гад.
Рукапісы павінны быць чытэльна напісаны.
Аплата прынятых рукапісау залежыць ад рэдакцыі.
Рукапісы назад не выдаюцца.
ЦАНА 1 МАРК.

№ 16 (43). Менск, Пятніца 7 лістапада 1919 г. № 16 (43).


## Жыды!..

Жыды, „хрыстапрадауцы і прыблуды“!
О, слава вам, усебеларускіе жыды!
Я веру вам, хоць чорнай гразьзю усюды
Плюе вам раб і цар, стары і малады.

Нявольнікі вы сеньні з намі разам
На беларускай змучанай зямлі,
Дзе чорны зьдзек пасьвенчаным абразам
Гняце нас разам, як зьвяр'е, у крутой пятлі.

Вы ускрэсьніце, жыды, усьлед з Беларусяй,—
Сьцяг ваш і нашая паходня будуць жыць,
Хоць наш магільнік кветкай апрануся,
Хоць згубны мор над намі гібеляй імжыць.

Ня згасьлі вашы і ня згаснуць сьвечкі,—
Вы для народау далі мудрага Хрыста,
Якому узьнесьлі грэшные авечкі
Муры, дзе векі бьець паклоны бедната.

Таго-ж Хрыста прыбілі вы да крыжа,
Бо Ён вам ворагам для бацькаушчыны быу,
І распасьцерці сваю уладу выжай
Народ ваш мецiуся пад водгаласы ніу.

Але вам край ваш выдзерлі народы,
На вечнае бадзяньне у прочкі згналі вас,
І разбрыліся вы—усе вашы роды
Па нетры усіх старон на векавы папас.

І вось, Усход і Захад, Поудзень, Поунач,
Уся зямля гасьцьмі тады вас прыняла,
Вы усім і усе нясьлі вам братню помач,
Вы усіх талы і усе вас сьцярaглі ад зла.

Калі у Гішпаны узбунтаваны людзі
З сваей краіны выгналі вас на пасьмех,
На беларускім полі вашы грудзі
На век знайшлі дневаньне, страву і начлег.

Шлі дні. І вас у ланцугі скавалі
Бязбожны каралі і дэспаты цары,
Адны вас Беларусы шанавалі,
Як блізкіх родных да сьвятлейшае пары.

Масква й Варшава аплюлі вам імя
І у дзікай чэрні ненавісьць спладзілі к вам,
А Беларусь пад крыльлямі сваімі
Вас грэла й вашым нянькаю была дзецям.

Пасьля, жыды, вы зрэкліся народу,
Які вам шчыра дау багацьце і прыпын;
Пайшлі прыдбаць сабе чэсьць і выгоду
Да сільных тых, хто дау вам вісельню і чын.

Раскіданые гібнуць па усім сьвеце,
Вы Мэсыі чакаеце яшчэ, жыды,—
Тэй Мэсыі ждуць Беларусі дзеці,
І з вамі пойдуць, як вы з намі, усе тады.

Ваш ясны сьветач там—дзе Палястына,
Наш ясны сьветач—Маці-Беларусь адна;
Спадзе ланцуг ваш у сьляпым загіну,
Спадзе ланцуг наш і зазьяе усім вясна.

Цяпер за вамі слово у буру гэту—
Пайці, ці не, з народам нашым да сьвятла...
Пара, жыды, паны усяго сьвету,
Сплаціці доуг, які вам Беларусь дала!

Янка Купала.

Менск 10/X—19 г.

## АПОШНІЕ НАВІНЫ.

### ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ ПОЛЬСКАГА ГЭНЭРАЛЬНАГА ШТАБУ.

**Літоуска-Беларускі фронт.**

Ад. 5—XI.

Паміж Дрыссай і Дзісной праціунік моцна абстрэліваy гарматнім і куляметным агнем заходні бераг Дзьвіны. На поунач ад мястэчка Бярэзіны бітва ідзе далей і разьвіваецца карысна для нас. Пад Барысавам сільная чыннасьць артылерыі праціуніка. На палескім участку патычкі конных разьведчых атрадау.

**Валынскі фронт.**

Без перамены.

Час. нам. Начальн. Гэн. Штабу, палкоунік ГАЛЛЕР.

### Адбудаваньне Беларускай арміі.

ВІЛЬНЯ, 5-XI. З Варшавы вярнулася беларуская вайсковая камісія, якая складаецца з Аляксюка, Аусяніка, палкоуніка Канапацкага і падпаручніка Фохта. Камісія склікала агульны сход афіцэрау і салдат беларусау.

Камісія апавясьціла сабраным дэкрэт Язэпа Пілсудзкага аб фармаваньні беларускай арміі. Главнакамандуючым назначаны палкоунік Канапацкі. Арганізавана вайсковая камісія у складзе Аляксюка, Аусяніка, палкоуніка Канапацкага, палкоуніка Якубоускага, капітана Кушэля, капітана Якубецкага, Рак-Міхалоускага, Мурашкі і Прушынскага. Афіцэры і салдаты, быушые на сабраньні, вынесьлі пастанову паслаць тэлеграму з падзякай Язэпу Пілсудскаму.

### Наступленьне расійска-нямецкіх войск.

ВІЛЬНЯ, 5-XI. Атрады расійска-нямецкіх войск Бэрмонта наступаюць у дальшым цягу на участку ад Бэйсаголы да Міхэльмонт у напрамку па лініі Радзівілішкі—Коуна.

### Конфэрэнцыя быушых пад расійскай няволяй народау.

ВАРШАВА, 5—XI. „Цэнтраль-Агэнтур“ паведамляе: Дыпломатычные прадстаунікі Эстоніі, Латвіі, Літвы, Беларусі (?) і Украіны прыбылі 20 кастрычніка у Бэрлін. На нарадзе прадстаунікау пастаноулена арганізываць пастаянную конфэрэнцыю для супольнай абароны сваіх правоу і арганізаваньня саюзу для абароны свaей дзержаунай і палітычнай незалежнасьці. Пачаліся перагаворы з Фінляндыяй аб учасьці яе прадстаунікау у працы конфэрэнцыі.

### Проці Дэнікіна.

ПАРЫЖ, 5—XI. Атаман украінскі Петлюра выслау сваіх дэлегатау у Эстонію, Латвію, Літву і Фінляндыю з мэтай навязаць перагаворы аб абразаваньні саюзу з мэтай абароны проці Дэнікіна.

### Грандыезная пакража.

НАУЭН, 5—XI. Эстонскі урад заказау у Штокгольме на 200 мільенау рублеу грашавых знакау. Грошы павінны былі быць высланы у Рэвэль, але перад адпраукай большую частку грошай укралі.

### Голад у Нямеччыне.

БЭРЛІН, 5—XI. Нямецкі урад, з прычын браку вугольляу і бульбы, спыніу пасажырскі рух на дзесяць дзен.

### Бітвы пад Петраградам.

РЭВАЛЬ, 5—XI. Бальшавікі згруппавалі на Петраградзкім фронце проці Юдэніча 60 тысячную армію, ня лічучы атрадау, которые бароняць Петраграда у самым горадзе.

Штаб Юдэніча паведамляе, што ад пачатку наступленьня пауночна-заходняй арміі узята боляй за 30 тысяч палонных. Войска Юдэніча наступае далей у районе Царскага Сяла.

хлеб. Некаторые безработные, глауным чынам, б. чыгуншчыкі, заняліся дробным гандлям і спэкуляцыяй. Цяпер некаторые безработные організуюць арцелі дзеля рубкі дроу, упакоукі іх у вагоны і т. д.

Многіе рабочые выходзяць на заработкі у веску, пакідаючы горад назауседы. Іншые пробуюць прабрацца у савецкую Расію, дзе спадзяюцца дастаць хоць якую кольвек працу.

**На чарговым зьездзе** павятовых стараст округа, каторы адбудзецца 8 лістапада у упрауленьні начальніка округа, цэнтральнае пытаньне павесткі—харчовые справы.

**У акружным судзе** першая сэсыя па крымінальным справам адбудзецца 1/XII.

**Срод чыгуншчыкау** есьць нахіл выставіць свой асобны сьпісак кандыдатау на выбарах у мястовую раду.

Харчовая неурэлігурованнасьці чуецца сярод чыгуншчыкау досіць востра.

Коопэратыу для служачых менскага вузла пачне свае апэрацыі каля 15 лістапада.

**Часовые жыдоускіе абшчыны** у большых мястэчках Менскага і другіх паветау уладжываюцца менскімі інструктарамі, па ініцыятыве Менск. абшчыны. Глаунае заданьне гэтых абшчын—цясьнейшая сувязь жыдоуства і акуратная інформацыя аб усім, што робіцца у цэнтрах.

---

*Рэдактар-выдавец*

*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*



Магістрат м. Менску даводзіць да агульнага ведама, што 14-га гэтага кастрычніка а 12 гадзіне удзень, у памяшканьні Магістрату (рог Францішканскай і Юраускай) маець быць

# ЛІЦЫТАЦЫЯ

**на дастауку ауса, сена і саломы у ліку: ауса да 15000 пудоу, сена да 25000 пуд. і саломы да 12000 пудоу. для фуражыроукі коней гарадзкой пажарнай каманды, асэнізацыйнага абозу і інш. на тэрмін ад 1 дзекабра гэтага году да 1 юля 1920 году.**

Асобы, якіе хочуць прыняць удзел у ліцытацыі, могуць разглядаць кандыцыі у канцалярыі Магістрату у будніе дні ад 9 да 15 гадз. у дзень. На ліцытацыі могуць быць аддадзены пастаукі па асобку сена, ауса і саломы. К ліцытацыі павінен быць здадзен залог у 5000 руб.

**М. Запольскі-Даунар,** Бургомістр м. Менску.

**В. Бадзян,** Член Магістрату.

**Б. Ахрамовіч,** Дзелавод гасп. аддзелу.



Друкарня Інвалідау, Менск.